ПРАВА
ВЕСНІК
АБАРОНЧЫ
ЛІПЕНЬ, 2013
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Гамельчукі далучыліся да рэспубліканскай акцыі «Тыдзень палітвязня»
СТАР. 3

Калінкавіцкаму актывісту Дзянісу Рабянку адмянілі мільённы штраф
СТАР. 4

# Алеся Бяляцкага намінавалі на прэмію Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека



***Больш за 30 няўрадавых арганізацыяў Польшчы вылучылі Алеся Бяляцкага на прэмію Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека. З такой ініцыятываю выступіў польскі фонд Стэфана Баторыя.***

***Прэмія замяніла створаную ў 2007 годзе ўзнагароду за намаганні ў прасоўванні правоў чалавека, якая прысуджалася Парламенцкай асамблеяй Рады Еўропы кожныя два гады: у 2009 годзе ёй уганаравалі брытанскую арганізацыю «Human Rights Watch», а ў 2011 годзе – расейскі Камітэт супраць катаванняў.***

Намінаваць на прэстыжную прэмію могуць асобы або няўрадавыя арганізацыі, якія працуюць у сферы абароны правоў чалавека. Заяўкі з рэкамендацыямі прынамсі пяці няўрадавых арганізацыяў мусяць быць скіраваныя генеральнаму сакратару Парламенцкай асамблеі да 30 чэрвеня.

Імя пераможцы абвесцяць у канцы верасня. Цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 30 верасня ў Страсбуры на адкрыцці восеньскай сесіі Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы. Лаўрэат атрымае дыплом, статуэтку і 60 000 еўраў.

Кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага, асуджанага ўладамі на 4,5 года турмы, вылучыў сёлета на Нобелеўскую прэмію міру нарвежскі дэпутат Ян Санэр. За апошні год Алеся Бяляцкага, які застаецца ў турме, шматкроць уганаравалі за барацьбу за справядлівасць і правы чалавека, у тым ліку ўзнагародаю імя Пэтры Келі (Petra Kelly) і ўзнагародаю Леха Валэнсы.

Кіраўнік «Вясны» ўвайшоў таксама ў лік лаўрэатаў прэміі парталу «Хартыя'97» за выбітныя дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека за 2012 год.

**"Белсат".**

# “Яшчэ прыйдзе вясна!”

Праваабарончы цэнтр "Вясна" выпусціў вялікі наклад паштовак у падтрымку палітвязняў. Па словах сябры рады гэтай арганізацыі Таццяны Равякі, надрукавана тры варыянты паштовак, якія кожны жадаючы можа даслаць палітычнаму зняволенаму.

У Беларусі, па дадзеных "Вясны", па палітычных матывах за кратамі знаходзіцца 11 чалавек.
- На паштоўках словы, звернутыя да вязняў: “Дзякуй табе, сябра! Ганарымся, не забываем, любім. Нас многа”. Таксама ёсць паштоўка з выявай дзяўчыны, якая піша ліст: “Я думаю пра цябе. Тое, што ты ёсць, важна для мяне”. Ну, і зразумела, паколькі мы “вясноўцы”, асобны мэсідж - да Алеся Бяляцкага: “Твой лёс важны для мяне”. І на адваротным баку: “Яшчэ прыйдзе вясна!”

Па словах Таццяны Равякі, гэтыя кароткія пасланні, мэсіджы да палітзянволеных выбраны з прапаноў у фэйсбуку пасля таго, як праваабаронцы звярнуліся да грамадзян з ідэяй абмеркаваць выгляд паштовак.

“Рассылка паштовак стане працягам кампаніі салідарнасці з палітзняволенымі, якую Праваабарончы цэнтр "Вясна" праводзіць ужо даўно”, - кажа Таццяна Равяка.

**ПЦ "Вясна"**

# Гомель: асуджаны да смяротнага пакарання звернецца ў Камітэт па правах чалавека ААН



Асуджаны да смяротнага пакарання гамельчук Аляксандр Груноў праз адваката перадаў даверанасці сваёй маці і праваабаронцу Леаніду Судаленка на права прадстаўлення ад яго імя скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН. Такім чынам ён хоча пазбегнуць вышэйшай меры - растрэлу і замены прысуду на пажыццевае пакаранне.

Напамятаем, 25-гадовы гамяльчук Аляксандр Груноў прысуджаны Гомельскім абласным судом да вышэйшай меры пакарання за жорсткае забойства студэнткі 4 курса Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Каля пад'езда шматпавярховіка, дзе пражывала дзяўчына, ён нанёс сваёй ахвяры 102 нажавыя раненні.

Праз адваката прысуджаны да смяротнага пакарання падаў касацыйную скаргу ў судовую калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суду, пасля чаго, ў выпадку калі прысуд пакінуць без зменаў і ўступіць у законную сілу ён можа быць прыведзены ў выкананне ў любы момант. У асуджанага ёсць таксама права звярнуцца за памілаваннем да Прэзыдэнта краіны.

Разам з тым, калі асуджаны звернецца ў Камітэт па правах чалавека ААН, там існуюць такія правілы як меры тэрміновага характару. Ураду Беларусі з боку ААНаўскага Камітэту тэрмінова будзе накiравана просьба не выконваць прысуд да таго моманту, пакуль скарга асуджанага да смяротнага пакарання не будзе разгледжана па сутнасці.
У выніку, калі Камітэт па правах чалавека знойдзе ў справе асуджанага парушэнні правоў, гарантаваных Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх ды палітычных правах, ён будзе рэкамендаваць краіне замяніць меру пакарання.

**gomelspring.org**

# Мітрапаліт Філарэт выступіў за адмену смяротнага пакарання



«Беларуская праваслаўная царква настойліва зьвяртала ўвагу грамадзкасьці на праблему сьмяротнага пакараньня яшчэ ў дзевяностых гадах мінулага стагодзьдзя. У 1996 годзе напярэдадні ўсенароднага рэфэрэндуму, на якім, сярод іншага, абмяркоўвалася пытаньне аб сьмяротнай кары, мы заклікалі беларускі народ адмовіцца ад такой меры пакараньня», — гаворыцца ў звароце мітрапаліта Менскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта да ўдзельнікаў круглага стала «Рэлігія і сьмяротнае пакараньне», які праходзіць у Менску.

«Мы, хрысьціяне, ня можам апраўдваць сьмяротнае пакараньне, бо гэта грэх забойства... Жыцьцё любога чалавека належыць яго Тварцу, Богу. Ня мы, грэшныя людзі, даравалі быцьцё чалавеку, ня нам і пазбаўляць чалавека існаваньня. Бо за жыцьцё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыцьцё, зьведаўшы пакуты, зьнявагі, зьдзекі і сьмерць на Крыжы... Дзяржава, караючы сваіх грамадзян сьмерцю, кожны раз нанова расьпінае Хрыста», — цытуе вітальнае слова мітрапаліта Філарэта Інтэрфакс.

**«Такой была наша пазыцыя ў год рэфэрэндуму. На сёньня яна засталася нязьменнай», — падкрэсьліў кіраўнік БПЦ.**

Спасылаючыся на Асновы сацыяльнай канцэпцыі РПЦ, мітрапаліт адзначыў, што «сёньня многія дзяржавы адмянілі сьмяротнае пакараньне паводле закону альбо не ажыцьцяўляюць яго на практыцы. Памятаючы, што міласэрнасьць да чалавека, які паў, заўсёды больш пажаданая за помсту, Царква вітае такія крокі дзяржаўных уладаў».

Мітрапаліт Філарэт таксама нагадаў, што патрыярх Кірыл і яго папярэднік патрыярх Аляксій II у свой час выказваліся на карысьць адмены сьмяротнай кары.

**Радыё «Свабода»**

# Гамельчукі далучыліся да рэспубліканскай акцыі “Тыдзень палітвязня”

У Гомелі любы жадаючы можа далучыцца да агульнабеларускай грамадзянскай акцыі салідарнасці “Тыдзень палітвязня”. Дзеля падтрымання палітычных зняволеных дастаткова наведаць грамадска-палітычны цэнтр па вуліцы Палескай, 52 абласнога цэнтра, дзе кожны будзе мець магчымасць прыняць удзел у акцыі шляхам напісання паштовак тым, хто паводле палітычна матываваных прысудаў знаходзіцца ў Беларусі зараз за кратамі.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі гомельскія праваабаронцы з “Вясны” і “Салідарнасці”.  Толькі цягам сёняшнега дня было падпісана і раздадзена для падпісання некалькі дзясяткаў паштовак у падтрымку палітычных зняволеных.

Трэба адзначыць, што праваабаронцы ў Гомелі робяць такую маральную падтрымку палітвязням рэгулярна.

14 сакавіка юрыст Леанід Судаленка атрымаў з Бабруйску паштоўку ад палітзняволенага Алеся Бяляцкага. Зняволены праваабаронца шчыра дзякаваў за падтрымку, а таксама віншаваў з Днём Волі: “Леанід, добры дзень! Прывітанне з Бабруйску! Дзякуй за паштоўку. У мяне ўсё з большага нармальна. Працую, чытаю газеты, пішу лісты. Так дні і мінаюць. Сумаваць няма калі. Віншую з Днём Волі! Яе нам усім не хапае. Перадавай знаёмым прывітанне”.

11 красакавіка на адрас праваабаронцы Анатоля Паплаўнага зняволены кіраўнік "Вясны" падзякваў гомельчукоў за падтрымку і выказаў спадзеў на хуткую сустрэчу:  "Добры дзень Анатоль! Атрымаў агульны ліст з цёплымі словамі ад розных людзей, усім дзякую! У мяне ўсё па - старому. Маю ўжо год працоўнага стажу ў калоніі. Хаця галавой, прызнаюся болей падабаецца працаваць. Дык вось хоць мазгі крыху адпачнуць. Але чытаю, лісты пішу, разьвіваюся ўнутрана і духоўна. Так што ня так усё пагана. Да сустрэчы, Алесь!»

Нагадаем, у Беларусі цяпер 11 палітычных вязняў. Гэта старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, лідар Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец, лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч, актывіст гэтай жа арганізацыі Эдуард Лобаў, прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, асуджаныя па «справе анархістаў» Ігар Аліневіч, Аляксандр Франццкевіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка.

**gomelspring.org**

# Скарга Андрэя Стрыжака зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН



Андрэй Стрыжак зарэгістраваў скаргу ў Камітэце па правах чалавека ААН пасля года судоў і цяжбаў. Нагодай для падачы скаргі ў ААН для каардынатара моладзевай сеткі Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) стала адмова ўладаў у правядзенні пікету, - кажа Андрэй Стрыжак.

- Год таму, 3 ліпеня, я падаў заяву на правядзенне пікету, які быў скіраваны на прыцягненне ўвагі да сітуацыі на «Граніце». Працоўным тады не давалі магчымасці зрабіць незалежны прафсаюз. Рэчыцкі райвыканкам адмовіў мне ў праве правядзення такога пікету. Я прайшоў усе ўнутраныя эфектыўныя сродкі прававой абароны і выйшаў на міжнародны ўзровень – падаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Па словах Андрэя Стрыжака, 18 чэрвеня яго справа была зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН. Ён атрымаў адмысловы ліст, а пакет дакументаў, сабраных за год цяжбаў у Беларусі, быў адпраўлены адпаведным дзяржаўным органам. Цяпер яны абавязаны на працягу паўгода адрэагаваць на зварот.

**Антон Разумоўскі,**
**Беларускае Радыё Рацыя**



# Калінкавіцкаму актывісту адмянілі мільённы штраф

**Адміністрацыйная справа пра нанясеньне актывістам лёгкіх цялесных пашкоджаньняў прадпрымальніку Ўладзімеру Жыгару накіравана на новы разгляд у Калінкавіцкі раённы суд.**

Рабянок: «Пацярпелы ў гэтай справе насамрэч ня Жыгар, а я сам. Ён пырснуў мне ў вочы сьлезацечным газам. Міліцыя аднабока падала гэты інцыдэнт у суд, і я застаўся вінаватым».

Канфлікт здарыўся яшчэ ў красавіку. Дзяніс Рабянок выйшаў на свой уласны суботнік — прыбраць клюмбу насупраць балькона ў шматкватэрным доме. Такая ініцыятыва зь нейкай прычыны прыйшлася не даспадобы суседу Ўладзімеру Жыгару, які ня раз чапляўся да апазыцыйнага актывіста. Гэтым разам за тое, што ён нібыта перашкаджае адпачываць: «Праклятыя апазыцыянэры, вас забіваць трэба, высяляць трэба, як кажа наш прэзыдэнт». Рабянок яму ў адказ: «Супакойся ды ідзі палячыся, калі ў цябе нэрвы».

Калі Дзяніс скончыў працу і вяртаўся дадому, яго ў двары заўважыў Уладзімер Жыгар. Ён выскачыў з машыны, падбег да Рабянка й пырснуў яму ў вочы газам з балёнчыка. Напад бачыла Дзянісава маці — яна выклікала сыну хуткую дапамогу й паведаміла пра інцыдэнт у міліцыю. Мэдыкі забралі Дзяніса ў шпіталь, аказалі першую дапамогу. Ён мусіў яшчэ тыдзень лекавацца ў афтальмоляга з прычыны хімічнага апёку вачэй.

Дзяніс Рабянок падаў у міліцыю заяву на прыцягненьне нападніка да адказнасьці.

Аднак праз два тыдні атрымаў копію пастановы за подпісам намесьніка начальніка Калінкавіцкага райаддзелу міліцыі Станіслава Расошкі і ўчастковага інспэктара Ўладзімера Паўловіча. Дзяніса Рабянка абвінавацілі ў разьвязваньні бойкі, нанясеньні лёгкіх цялесных пашкоджаньняў Уладзімеру Жыгару. Апошні праз два дні пасьля інцыдэнту прадставіў даведку судмэдэкспэрта, што ў яго пашкоджана губа й ёсьць сінякі на плячы й сьцягне.

Скарга Дзяніса Рабянка ў пракуратуру выніку ня мела. Участковага інспэктара Паўловіча ў судзе не было. Патлумачыць, чаму Дзяніса не накіравалі на судмэдэкспэртызу падчас падачы заявы ў міліцыю, не было каму. Участковы Паўловіч наагул склаў пратакол у дачыненьні да апазыцыянэра, не апытаўшы нават усіх сьведак.

Судзьдзя Калінкавіцкага раённага суду Ўладзімер Міцуля, які разглядаў дасланую ў суд пастанову зь міліцыі, асабліва не паглыбляўся ў сутнасьць канфлікту. 7 чэрвеня ён прызнаў апазыцыйнага актывіста вінаватым у нанясеньні цялесных пашкоджаньняў Уладзімеру Жыгару і аштрафаваў на 1 мільён рублёў. Пастанову раённага судзьдзі Міцулі і адмяніў абласны суд.

www.svaboda.org